# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 4 (179)
красавік 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:


**Марафон салідарнасці: "Разбуры турмы муры..."**

У кнігарні "логвінаЎ" прайшоў творчы марафон салідарнасці з фігурантамі "Справы патрыётаў" і іншымі рэпрэсаванымі падчас падзеяў сакавіка гэтага года.

**Працяг на старонцы 2.**

**Беларуская кніга на VI Міжнародным кніжным кірмашы ў Беластоку**

Беларускіх культурных дзеячаў паклікаў да сябе VI Міжнародны кніжны кірмаш у Беластоку. Дэлегацыя таксама мела на мэце кантакты з беларускай меншасцю на Падляшшы: напярэдадні Сёмага з'езда беларусаў свету ў Беласток завітала кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская.

**Працяг на старонцы 3.**

**"Жыццё падзялілася на дзве часткі"**

Размова з Феліксам Аксёнцавым з Ванкувера ў Канадзе, паэтам, кампутаршчыкам, эмігрантам, колішнім удзельнікам гурта "Уліс".

**Працяг на старонцы 4.**

**Сядзібу "Крывічоў" у Іркуцку пазбавілі арэнды**

Алег Рудакоў, апантаны руплівец беларускай справы ў Расіі, страціў працу, з арандаванай сядзібы ў цэнтры Іркуцка высяляюць моладзевы клуб "Крывічы", дзе ён адзін з кіраўнікоў.

**Працяг на старонцы 5.**


## 15–16 ЛІПЕНЯ Ў МІНСКУ ПРОЙДЗЕ СЁМЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ:

**"Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгіі развіцця"**

## ІДЗЕ ВЫЛУЧЭННЕ ДЭЛЕГАТАЎ

Шаноўнае спадарства!

Працягваецца актыўная падрыхтоўка да Сёмага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", які адбудзецца ў Мінску 15–16 ліпеня гэтага года. Зараз ідзе перыяд вылучэння дэлегатаў ад суполак, а Працоўная група па падрыхтоўцы З'езда займаецца дэталізацыяй праграмы, вырашае шматлікія арганізацыйныя і тэхнічныя пытанні па правядзенні гэтага буйнога міжнароднага мерапрыемства.

Атрымаўшы запрашэнне, як найхутчэй адкажыце на яго, у тым ліку паведамляйце, ці маеце патрэбу ў гатэлі і дапамогу ў афармленні візы (калі плануеце прыехаць болей, чым на 5 дзён, і/ці не самалётам).

Калі вы не з'яўляецеся сябрам Згуртавання "Бацькаўшчына", але жадаеце ўзяць удзел у З'ездзе ў якасці госця, паведаміце нам пра гэта на электронны адрас zbsb.minsk@gmail.com.

Дзеля максімальнага ўключэння ў выніковыя дакументы З'езда меркаванняў беларусаў замежжа, Управа ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца да вас з просьбай незалежна ад фармальнага сяброўства ў нашай арганізацыі запоўніць адмысловую АНКЕТУ на сайце zbsb.org – выказаць прапановы і пытанні, скіраваныя да беларускай дзяржавы і да грамадскасці, акрэсліць найбольш важныя для вас праблемы з практыкі ўзаемадзеяння з дзяржаўнымі ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі Рэспублікі Беларусь.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# МАРАФОН САЛІДАРНАСЦІ: “РАЗБУРЫ ТУРМЫ МУРЫ...”

У кнігарні “логвінаЎ” прайшоў творчы марафон салідарнасці з фігурантамі “Справы патрыётаў” і іншымі рэпрэсаванымі падчас падзеяў сакавіка гэтага года. Да ініцыятывы далучыліся вядомыя музыкі, філосафы, літаратары.


Уладзімір Мацкевіч, Алесь Мікус, Ніна Шыдлоўская.

У памяшканні кнігарні не прапхнуцца. Побач як вядомыя творцы, так і людзі “з вуліцы”, якім баліць за тое, што адбываецца навокал.

Акцэнты ў пытанні “навошта і каму гэта трэба” расставіла Таццяна Вадалажская, каардынатарка “Лятучага ўніверсітэта”: “Сярод абсурду і несправядлівасці нашых дзён, калі чалавечая годнасць выціскаецца з краіны, мы маем дапамагаць нашым сябрам і суграмадзянам. Галоўнае – гэта адчуванне свабоды і годнасці, падтрымліваць якую маюць і людзі слова – творцы, паэты, музыкі”.

Вядоўца вечара паэт Андрэй Хадановіч прачытаў верш Чэслава Мілаша і праспяваў “Муры” Качмарскага.

Літаратар і старшыня Саюза пісьменнікаў Барыс Пятровіч распавёў аб тым, што ведаў асабіста шмат каго з фігурантаў “Справы патрыётаў”, а таксама адзначыў, што на такіх людзях трымаецца Беларусь. Пісьменнік таксама прачытаў некалькі сваіх кароткіх твораў: “Жывога пабачыць” і “Няшчасце”, напісаныя яшчэ ў 1990-я гады.

Літаратары цягам вечара часцяком звярталіся да твораў сваіх папярэднікаў: вершаў Якуба Коласа, напісаных у астрозе, прозы дысідэнта і палітыка Вацлава Гаўла, паэзіі Алеся Дудара. Філосаф Міхаіл Баярын, які нагадаў, што патрыёты зняволеныя за тое, што стваралі беларускую нацыю, прачытаў пераклад з санскрыту.

Музыка Алесь Мікус прымусіў прысутных згадаць словы гімна “Белага легіёна”, выступіўшы яшчэ і ў якасці дудара. Маладзейшае пакаленне актыўна падпявала. Філосаф Уладзімір Мацкевіч адзначыў, што добра ведае зняволенага па “Справе патрыётаў” Міраслава Лазоўскага ўжо 20 гадоў, а таксама прачытаў адзін са сваіх тэкстаў, напісаных у 2000-я.

Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” Ніна Шыдлоўская падзякавала ўсім, хто любымі спосабамі дапамагае падтрымліваць арыштаваных, заклікала не спыняць гэтай падтрымкі і адзначыла, што сённяшнія сядзельцы церпяць за веданне нацыянальнай гісторыі, любоў да краіны і жаданне, каб яна была суверэннай і незалежнай.

У марафоне “Разам” узялі ўдзел таксама Лявон Вольскі, Андрусь Такінданг, Валянціна Аксак, Сяргей Харэўскі, Анатоль Івашчанка, Віктар Жыбуль, Валянцін Акудовіч і іншыя.

**Алесь Кіркевіч,**
**фота Зарыны Кадрацьевай**

# У НЬЮ-ЁРКУ ПРАЙШОЎ МІТЫНГ САЛІДАРНАСЦІ З АРЫШТАВАНЫМІ Ў БЕЛАРУСІ

9 красавіка ў Нью-Ёрку каля Беларускага консульства прайшла чарговая акцыя супраць рэпрэсій у Беларусі.




Акцыю арганізавала моладзь Бруклінскага аддзела Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА), вядоўцай акцыі была Святлана Казачок. Сярод выступоўцаў былі старшыня Галоўнай управы БАЗА Ганна Сурмач і старшыня Бруклінскага аддзела БАЗА Таццяна Красоўская.

Таксама далучыліся прадстаўнікі Амерыканска-еўрапейскага камітэта салідарнасці, які быў заснаваны нацыянальнымі дыяспарамі Усходняй Еўропы, Балтыі, Каўказа і Крымскіх татараў у Амерыцы. З прамовай у падтрымку беларусаў выступіла Іванка Заяц – старшыня Нью-Ёркскага аддзела Украінскага Кангрэсавага камітэту.

Большасць прысутных складала эміграцкая моладзь, якая не забываецца на сваю Бацькаўшчыну і верыць у яе лепшую будучыню, разумеее, што задача кожнага беларуса, дзе б ён ні быў, – пашыраць веды пра Беларусь, беларускую культуру ў свеце і сваім асяроддзі. Падзеі апошніх тыдняў прымусілі іх выходзіць на вуліцы, пратэставаць і прыцягваць увагу да Беларусі.

Тое, што адбылося ў мінулым месяцы, – сапраўдныя рэпрэсіі. 300 чалавек былі арыштаваныя, на іх былі заведзеныя крымінальныя справы, і яны былі асуджаныя ні за што. Гэтая акцыя – факт салідарнасці з беларусамі, правы якіх зневажаюць улады на Беларусі.

**Святлана Казачок,**
**“Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне” (БАЗА)**




## Кампанія па зборы сродкаў для падтрымкі арыштаваных і іх сем’яў

Грошы неабходныя на перадачы, а таксама сем’ям затрыманых, якія з-заператрусаў і арыштаў засталіся без сродкаў існавання. Гарантаваныя празрыстасць і мэтавасць выкарыстання.

Грошы можна перавесці альбо перадаць наступным чынам:

- Асабіста Nina Shydlouskaya альбо на яе картку Беларусбанк толькі ў беларускіх рублях 4255190182607666 (тэрмін дзеяння па 07/19 на імя Nina Shydlouskaya), e-mail: pamazhy2017@gmail.com).
- Асабіста сем’ям арыштаваных (пішыце асабістыя паведамленні alaksiej.lavoncyk@tol.org, каб даведацца, каму на той момант дапамога будзе больш неабходная).
- Paypal: alaksiej.lavoncyk@tol.org
- На рахунак у Польшчы, Вялікабрытаніі, Італіі (удакладняйце рэквізіты праз асабістыя паведамленні alaksiej.lavoncyk@tol.org)

навіны "Бацькаўшчыны"

# БЕЛАРУСКАЯ КНІГА НА VI МІЖНАРОДНЫМ КНІЖНЫМ КІРМАШЫ Ў БЕЛАСТОКУ

Беларускіх культурных дзеячаў паклікаў да сябе VI Міжнародны кніжны кірмаш у Беластоку. Нагодай стала прэзентацыя кніг, выдадзеных на польскай мове: "Спачатку была цемра" Барыса Пятровіча і "Каменданцкі час для ластавак" Алены Брава. Дэлегацыя таксама мела на мэце кантакты з беларускай меншасцю на Падляшшы: напярэдадні Сёмага з'езда беларусаў свету ў Беласток завітала кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская.



Выдавец Андрэй Янушкевіч і кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская.

Выдавецтва фундацыі "Суседзі", якое выпусціла ў свет кнігі, адначасова з'яўляецца галоўным арганізатарам кніжнага кірмашу ў Беластоку.

Сёлета збор аматараў кнігі аб'яднаў 70 стэндаў, на якіх размясціліся каля 90 выдавецтваў самага рознага кшталту. Кожны мог выбраць сабе кніжку па філасофіі, мастацтве, гісторыі і іншых навуковых галінах. Побач суседнічалі выдавецтвы афіцыйных акадэмічных інстытуцый і прыватныя невялікія выдавецтвы. Акцэнт арганізатары кірмашу зрабілі на кнігах жанру нон-фікшн і дзіцячай літаратуры – ім былі аддадзеныя найбольшыя плошчы двухпавярховага абсягу опернага тэатра.

Дзеткі мелі магчымасць разам з бацькамі паўдзельнічаць у майстар-класах па вырабе паперы, папрацаваць з копіяй старадаўняга друкарскага варштата альбо проста памаляваць. Дарослыя валам хадзілі на прэзентацыі і аўтограф-сесіі. Да беластоцкіх чытачоў прыехалі сёлета найвядомейшыя польскія аўтары: рэпарцёр Марыюш Шчыгел, аўтарка дэтэктываў Катажына Бонда, філосаф, выдавец і культуролаг Кшыштаф Чыжэўскі і шмат хто яшчэ.

Не першы год удзельнічаюць у беластоцкім кірмашы і беларускія незалежныя выдавецтвы. Сёлета іх прадстаўлялі "Кнігазбор", "Галіяфы", "ARCHE" і выдавец Андрэй Янушкевіч. На беларускім стэндзе высоўваліся наперад гістарычныя кнігі і дзіцячая літаратура. Беларускім выдавецтвам было чым зацікавіць падляшукоў – зусім нядаўна выйшлі ў перакладзе знакамітыя Пэтсан і Фіндус ("Кнігазбор"), а таксама Льюіс Кэрал з яго несмяротнай Алісай ("Галіяфы"). Як адзначыў кіраўнік "Кнігазбора" Генадзь Вінярскі, на мастацкую літаратуру з Беларусі попыт мог бы быць лепшым, але перашкаджае кірылічны шрыфт, ад якога на Падляшшы паспелі адвыкнуць. Многія наведнікі цікавіліся выданнем беластоцкіх беларусаў – грунтоўнай "Гісторыяй беларусаў Падляшша" на польскай мове. Калектыў аўтараў здолеў закрануць многія прынцыповыя пытанні і не абышоў увагай балявыя кропкі міжнацыянальнай гісторыі беларуска-польскага пагранічча.

На польскай мове прыйшлі да чытача і беларускія мастацкія кнігі, абраныя беластоцкімі выдаўцамі. "Спачатку была цемра" (пераклад Ежы Плутовіча) і "Каменданцкі час для ластавак" (пераклад Міры Лукшы) з'яўляюцца добрымі варыянтамі літаратуры на экспарт у Польшчу, бо распавядаюць пра нашу агульную гістарычную траўму камуністычнай ідэалогіі, і ў той жа час – з зусім розных ракурсаў. Абодвух беларускіх аўтараў аб'яднаў ў адну прэзентацыю, якую мадэраваў беларускі журналіст і культурны дзеяч Падляшша Мікола Ваўранюк.

**Алена Брава:** "Мая кніга грунтуецца на дзённіках, якія я вяла, прыехаўшы на Кубу разам з мужам і дачкой. Нашыя мужы, якія дапамагалі нам у Беларусі, дома станавіліся закладнікамі звычаяў. Для мужчын у крамах існавала асобная чарга на пакупкі, займацца хатнімі справамі мужчыну было забаронена. Я сутыкнулася з галечай, у параўнанні з якой бедната савецкага чалавека бляклa. Мае погляды феміністычныя, і я хацела паказаць, як асоба супрацьстаіць сістэме, уладзе".

**Барыс Пятровіч:** "Цяпер тэксты пра дзевяностыя гэта – таксама гістарычная літаратура. Чэргі, карткі – моладзь зусім не ведае нічога пра той час. У вар'яцкім доме, які апісаны ў кнізе і які рэальна існаваў непадалёк ад маёй роднай вёскі, было яшчэ горш. Людзі галадалі, не мелі адзення і былі забытыя, імі ніхто не цікавіўся. Мне было важна адчуць і перадаць стан чалавека на выхадзе з бяспамяцтва, як ён вучыцца па новай хадзіць, гаварыць, пазнаваць рэчы. Кніга пра дзевяностыя, але што ў нашым інтэрнаце за гэты час змянілася? Нават галоўнага ўрача не памянялі".

Беларускія аўтары рэгулярна з'яўляюцца ў лонг і шорт-лістах прэміі "Ангелус" ("Адам Клакоцкі і яго цені" Ігара Бабкова, "Рыбін горад" Наталкі Бабінай, "Аўтамат з газіроўкай і без" Уладзіміра Някляева), і новыя пераклады беларускіх кніг маюць усе шанцы быць заўважанымі польскім чытачом.

**Ціхан Чарнякевіч, lit-bel.org**

**Друкуецца ў скароце.**
**Поўную версію чытайце на zbsb.org**

навіны "Будзьма беларусамі!"

## "Балцкі Субстрат" у Мсціславе

5 красавіка ў Мсціслаўскім раённым Цэнтры культуры і народнай творчасці, у межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" і акцыі "Пяцісотгоднасць", прысвечанай 500-годдзю беларускага кнігадрукавання, прайшла імпрэза з удзелам гурта "Балцкі Субстрат" і сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў Віктара Жыбуля і Юрыя Несцярэнкі. Віктар Жыбуль распавёў пра паэта і перакладчыка Юлія Таўбіна, гурт "Балцкі Субстрат" выканаў песні на ягоныя словы, на словы Алеся Гаруна, Сяргея Дарожнага і фальклорныя. Некалькі ўласных кампазіцый праспяваў блюзмэн Юры Несцярэнка. Віктар Жыбуль правёў віктарыну на веданне гісторыі літаратурнага руху на Мсціслаўшчыне. Найбольш дасведчаныя ўдзельнікі атрымалі падарункі ад "Будзьма!".

## "500-годнасць" у Магілёве

6 красавіка гісторыка, доктара навук Леаніда Лыча разам з фотамастаком і паэтам Георгіем Ліхтаровічам прымалі ў зале культурніцкай пляцоўкі "Кола". Каля сарака жыхароў Магілёва слухалі вершы Георгія Ліхтаровіча. Выступ Леаніда Лыча, у якім гаворка ішла пра гісторыю і праблемы сучаснага грамадства, выклікаў шмат пытанняў, ператварыўшы сустрэчу ў дыскусію. Жадаючыя мелі магчымасць набыць кнігі гасцей, а найбольш актыўныя ўдзельнікі гутаркі атрымалі сувеніры з сімволікай кампаніі "500-годнасць".

## Прыгоды Васількі з Брачыслаўля

5 красавіка ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы горада Мінска ў межах кампаніі "500-годнасць" адбылася прэзентацыя кнігі археолага і гісторыка Мікалая Плавінскага "Прыгоды Васількі з Брачыслаўля". Перад вучнямі 3–5 класаў гімназіі №12 і сярэдняй школы №154 выступілі таксама рэканструктар Юры Усціновіч і кіраўнік музычнага гурта "Літы Талер" Дзяніс Шматко. Дзеці даведаліся пра жыццё і побыт сярэднявечных жыхароў Беларусі і змаглі паўдзельнічаць у сярэднявечных спаборніцтвах.

## "500-годнасць" у Чэрвені

7 красавіка ў межах кампаніі "500-годнасць" у Чэрвені паэт і кінадакументаліст Уладзімір Мароз правёў дзве сустрэчы з чытачамі – у цэнтральнай раённай бібліятэцы і ў Чэрвеньскай гімназіі №1. Уладзімір Мароз з'яўляецца аўтарам сцэнарыя дакументальнага фільма "Першадрук". Ён расказаў аб працы над фільмам, прачытаў вершы, прысвечаныя Францішку Скарыну, а таксама прадставіў сваю новую кнігу "Крыжы на ростанях". Прысутныя, якія давалі правільныя адказы на пытанні паэта, атрымалі суверніры ад кампаніі "Будзьма!".

## Шчаслівыя людзі на нашай планеце – дзеці

У межах акцыі "500-годнасць" драматург Васіль Дранько-Майсюк наведаў 12 красавіка навучэнцаў 3 класа мінскай СШ №87, дзе зладзіў спектакль, у якім задзейнічаў усіх прысутных. На аснове верша Валярыны Куставай "Шчаслівыя людзі на нашай планеце" дзеці прыдумалі гісторыю, у якой Францыск Скарына, як супергерой, вызваляў пры дапамозе чароўных словаў са сваіх кніг прынцэсу з лапаў чараўніка-цмока. Вучні і настаўніца засталіся вельмі задаволеныя.

## "500-годнасць" у Замасточчы

8 красавіка паэт Міхал Бараноўскі ў актавай зале замастоцкай школы прадставіў сваю кнігу "Volumen.1" ды распавёў пра юбілей беларускага кнігадрукавання і акцыю "500-годнасць" кампаніі "Будзьма беларусамі!". Вучні разважалі пра тое, як паэзія з'явілася ў старажытныя часы, як зараз незаўважна яна знаходзіцца побач у выглядзе песень. Міхал распавёў пра беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, якія паўплывалі на яго як аўтара вершаў, а таксама выканаў песні на ўласныя словы і адказаў на пытанні навучэнцаў, пра свае першыя спробы ў вершаскладанні і пра тое, як прыйшоў да беларускай літаратуры ўвогуле.

## "СкарынаКвіз" у Рэчыцы

У пачатку красавіка "СкарынаКвіз", прымеркаваны да юбілею беларускай Біблii, прайшоў у Рэчыцы. Мерапрыемства праходзіла ў рамках кампаніі "500-годнасць". Удзельнікі адказвалі на пытанні, звязаныя з жыццём Францішка Скарыны, яго перакладніцкай і друкарскай справай. Квіз меў назву "Факт ці фэйк".

**Паводле budzma.by**

гутарка

# Фелікс Аксёнцаў: ЖЫЦЦЁ ПАДЗЯЛІЛАСЯ НА ДЗВЕ ЧАСТКІ

Размова з Феліксам Аксёнцавым з Ванкувера ў Канадзе, паэтам, кампутаршчыкам, эмігрантам, колішнім удзельнікам гурта “Уліс”.



**Ян Максімюк: Канец 1980-х і пачатак 1990-х быў добры час для цябе, благі, ці нейкі іншы?**

**Фелікс Аксёнцаў:** Я думаю, што найлепшы. Джон Ленан некалі сказаў, што жыццё – гэта тое, што з табою здараецца, пакуль ты заклапочаны іншымі справамі. Са мной тады здарылася сапраўднае жыццё, але я не звяртаў на гэта ўвагі. Дарэчы, жонка кажа тое ж самае... Каб быць шчаслівым, патрэбны нейкі аптымальны баланс наіўнасці і сталасці. У тыя гады мой баланс быў аптымальны.

**ЯМ: Скажы крышку болей пра гэты баланс... Пра што ты тады, прыкладам, марыў?**

**ФА:** Марыў пра тое, пра што мару і зараз: пра Беларусь еўрапейскую, вольную, беларускамоўную, пра цывілізаванае жыццё на радзіме.

**ЯМ: Тое, што наступіла пасля ранніх 1990-х – моцна цябе расчаравала?**

**ФА:** Тое, што сталася з Беларуссю пасля 1994-га – расчаравала. Парадаксальным чынам, у гэтай сітуацыі захавалася беларуская культура, мастацтва, мова. Але гэта, так сказаць, пабочны вынік таго, што адбылося. Што тычыцца майго асабістага жыцця, я не сказаў бы, што я моцна расчараваны. Жыццё падзялілася на дзве часткі. Я думаю, што яно для мяне падзялілася добра...

**ЯМ: Шмат хто лічыць, што “першы” “Уліс” – гэта найлепшае, што здарылася ў беларускай рок-музыцы наогул. Як вам працавалася над гэтымі альбомамі? Вы мелі адчуванне, што ствараеце нешта сапраўды вартае?**

**ФА:** Калі ты кажаш “найлепшае”, дык мне нават крыху сумна. Я спадзяюся, што ў беларускай рок-музыцы ёсць і будзе шмат вартых альбомаў. Цяжка казаць за іншых, але я асабіста не думаў, што гэта застанецца на дзесяцігоддзі. Можа толькі аднойчы нешта такое адчулася, калі напісалася песня “Краіна доўгай белай хмары”. Слава Корань прыгадаў, што я тады, паслухаўшы вынік, сказаў, што, маўляў, цяпер можна спакойна памерці. А калі сур’ёзна, дык першыя два альбомы маглі б быць лепшыя. Мы тады не здолелі запісаць жывыя бубны, там грала драм-машына. Не хапала грошай, часу, і ўмоваў не было ў тагачаснай студыі. Студыйны час быў абмежаваны, і тэхніка таксама. Адзінае, што суцяшала – мы адчувалі, мы не горшыя за заходнія гурты. Я і цяпер так думаю, праслухаўшы сотні канцэртаў тут у Ванкуверы. Альбом “Чужаніца”, як мне здаецца, – найбольш калектыўны альбом “Уліса” ў сэнсе творчасці. Большасць музыкі заўсёды ствараў Слава, “Уліс” адбыўся перш за ўсё дзякуючы ягонаму таленту і працавітасці, але “Чужаніца” лепш за ўсе іншыя альбомы паказвае музычныя твары Андрэя Патрэя, Сяржука Краўчанкі, Кірыла Шэвандо і Валеры Цініцкага...

**ЯМ: Ці ты трымаеш сувязь з былымі ўлісаўцамі, з Краўчанкам або Коранем?**

**ФА:** Час ад часу мы віртуальна сустракаемся з Сержуком, быў час, што са Славам сувязь абнавілася, а потым зноў знікла... Не таму, што ёсць нейкія асабістыя крыўды. У мяне няма. З аднаго боку, мы ажыццявілі мару. А з іншага боку – успаміны аб канцы тых часоў у мяне дагэтуль балючыя...

**ЯМ: Раскажы крыху пра гэты боль.**

**ФА:** “Уліс” пачынаўся як калектыўны праект. Ёсць калектыўныя групы і групы, якія становяцца інструментамі асабістай творчасці. І гэта тое, што пачало адбывацца. Гэта натуральны працэс, але я ўсё больш адчуваў сябе абмежаваным.

**ЯМ: Чаму ты з’ехаў з Беларусі?**

**ФА:** Скажу шчыра: я заўсёды хацеў жыць на Захадзе. Мае дзяды шмат выцерпелі ад саветаў. Я заўсёды ставіў і стаўлю асобу чалавека і індывідуальнасць вышэй за грамадства, за дзяржаву ці за ідэю. Я спадзяваўся апынуцца на Захадзе разам з Беларуссю, далучыцца да Еўропы і яе каштоўнасцяў усёй грамадой. У сярэдзіне 1990-х я зразумеў, што пры маім жыцці гэтае можа і не здарыцца. За гэта трэба змагацца. Магчыма, за гэта трэба загінуць. А я не змагар. Я проста пішу вершы. Я сутыкнуўся з творчым крызісам, з хваробай і з вялікай разгубленасцю ў беларускім адраджэнні. Я тады адчуваў, што зрабіў усё, што павінен быў. Эміграцыя дала мне шанец на новы сэнс існавання. Я не ведаў тады, як зарабіць на жыццё. Нейкі там гандаль, бізнес даваўся паспрабаваць. Слава казаў, што я меў да таго талент. Дык вось, закапаў я гэты талент у глебу. Не люблю я грошай. Не маё гэта. З’ехалі мы ў Канаду, у Ванкувер, на ціхаакіянскае ўзбярэжжа. Таямніцы з гэтага я не рабіў, людзі ведалі дзе я, была нават песня “Каляды”, дзе быў радок “а адзін дык вабшчэ ў Канадзе”... Я думаю, гэты радок пра мяне...

**ЯМ: У цябе былі знаёмыя ў Ванкуверы, ці ты туды трапіў больш-менш выпадкова?**

**ФА:** У мяне ў Ванкуверы быў сябра дзяцінства. Першы год быў дужа цяжкі. Спачатку ты не маеш элементарных навыкаў жыцця ў новым асяроддзі, тых здольнасцяў, якія людзі ў Канадзе маюць ад дзяцінства. Я ведаў ангельскую мову, але вулічная мова і гарадскі слэнг – гэтаму трэба было навучыцца. Як і кіраваць аўтам, бо ні я, ні жонка гэтага не ўмелі. Усё чужынскае спачатку – крамы, ежа, адзенне... Сацыяльныя паводзіны людзей – іншыя... Толькі недзе праз год я навучыўся глядзець людзям цвёрда ў вочы падчас размовы... Першы год у эміграцыі ты як быццам за шклом, як нейкі прывід. А потым гэта знікае, выходзіш у новую прастору... Вельмі цікавы досвед. Спачатку мы паспрабавалі розныя выпадковыя працы. Але потым мы набылі кампутар і тры кніжкі па кампутарным праграмаванні. Я падумаў, што калі здольны складаць вершы на расейскай, на беларускай і нават крыху на ангельскай, то мабыць і праграмы на розных кампутарных мовах я напішу. Ну і напісаў. Недзе праз год я атрымаў першую сапраўдную працу ў IT фірме. Тады не хапала праграмістаў. Некалькі гадоў я працаваў у вялізнай пахавальнай кампаніі над складанымі фінансавымі праграмамі. Потым быў сістэмным аналітыкам у IT, працаваў кіраўніком праектаў, а апошнія чатыры гады кірую групай распрацоўкі і падтрымкі кампутарных сістэм у вышэйшай адукацыі правінцыі Брытанская Калумбія, у мясцовым універсітэце. З 2000-х гадоў я вельмі зацікаўлены дзэн-будызмам і практыкую дзэн-медытацыі.

**ЯМ: А ў Ванкуверы пішацца табе?**

**ФА:** Так, пішу вершы. У асноўным пішу на расейскай, але таксама і на беларускай. Мая матчына мова – расейская, на ёй размаўлялі ў сям’і. Гэта мацней за мяне, калі словы прыходзяць да мяне на матчынай мове. Раблю што магу на беларускай, на мове, якую я вывучыў ужо ў юнацтве...

**ЯМ: Як ты праводзіш вольны ад працы час? Якую музыку слухаеш, ці ходзіш на канцэрты?**

**ФА:** Люблю і джазавыя канцэрты, і класічныя, і рок-музыку. Тут на жывых канцэртах мне ўдалося паслухаць амаль усіх выканаўцаў і ўсе гурты, якія я слухаў з запісаў ці па радыё ў юнацтве. І яшчэ тутэйшая прырода... Яна дзіўная, і вельмі разнастайная. Тут такія мікракліматычныя зоны. Калі паедзеш на ўзбярэжжа, там будуць пальмы, субтрапічны флёр, а калі крышачку вышэй у горы – дык там будзе горны мікраклімат. Мы жывем у прыгарадзе, які знаходзіцца на ўзвышэнні, перад гарамі... Калі ты выйдзеш на падворак, то ўбачыш, што ад яго вядзе сцежка паміж дрэвамі, якім па трыста гадоў. Можаш выйсці на гэтую сцежку і проста з хаты пайсці на Аляску...

**Ян Максімюк, “Радыё Свабода”**

## АЛЕГУ ХАМЕНКУ — 50! “ПАЛАЦУ” — 25!

4 красавіка вялікім святочным канцэртам адзначыў свой 50-гадовы юбілей сябра Вялікай Рады МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» Алег Хаменка (Беларусь).

Ад усёй душы віншуем спадара Алега з юбілеем і зычым яму моцнага здароўя, бясконцага натхнення, імпэту і творчага плёну!



навіны

# СЯДЗІБУ “КРЫВІЧОЎ” У ІРКУЦКУ ПАЗБАВІЛІ АРЭНДЫ, АЛЕГ РУДАКОЎ ЗАСТАЎСЯ БЕЗ ПРАЦЫ

Алег Рудакоў, апантаны руплівец беларускай справы ў Расіі, страціў працу, з арандаванай сядзібы ў цэнтры Іркуцка высяляюць моладзевы клуб “Крывічы”, дзе ён адзін з кіраўнікоў.



Спадар Рудакоў сказаў, што летась быў прызначаны выканаўчым дырэктарам фірмы “Іркуцк МАЗ Цэнтр”, якая дапамагала “Крывічам” утрымліваць памяшканне. Але сумеснае з беларусамі прадпрыемства распачало працэдуру банкруцтва: “Банкрутуе галаўная кампанія “Сібір МАЗ Сэрвіс”, два месяцы не выплочвалі заробак. Мы толькі пераехалі ў цэнтр горада, абжыліся, лоўка было ўсім сустракацца, кожную суботу праводзілі заняткі, рэпетыцыі гурта. Пачалі сябе камфортна адчуваць, як такі вось паварот. А ўчора паставілі перад фактам, што кампанія не заплаціла арэнду за красавік, трэба тэрмінова шукаць грошы. Цяпер як закладнік: не выпускаюць, не даюць нічога везці. Што стала прычынай? На жаль, МАЗы апошнім часам сталі менш якаснымі, затрымліваюць пастаўкі. А канкурэнты тым часам не спяць. Пэўна, ёсць і іншыя нюансы. Але факт, што я падпадаю пад скарачэнне, утрымліваць сядзібу кіраўніцтва не будзе”.

Алег Рудакоў кажа, што пад пытаннем цяпер і традыцыйны “Беларускі кірмаш”, прызначаны на канец траўня. Праўда, абяцае, што правядзе імпрэзу ў любым выпадку: “Уже дамовіўся з Сяргеем Доўгушавым, што будзе тут 27 траўня. Калектывы ў вобласці ў рэжыме чакання, для іх вельмі важна хоць раз на год сюды прыехаць. Калі прыйдзецца, буду пазычаць грошы, каб зладзіць імпрэзу, а потым год адпрацоўваць, каб разлічыцца з даўгамі. Кірмаш будзе, гэта я гарантую. Адзінае, не маю пэўнасці, што змагу тады прыехаць у Менск на З’езд беларусаў свету “Бацькаўшчына” – хоць і заяўлены там як сустаршыня...”

Алег Рудакоў – заснавальнік і на працягу амаль двух дзясяткаў гадоў нязменны кіраўнік Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага. У 2014 годзе напісаў заяву аб выхадзе са складу арганізацыі з прычыны несупадзення пазіцый з асобнымі сябрамі. Ад таго часу – актыўны ўдзельнік моладзевай арганізацыі “Крывічы”.

**Ігар Карней, “Радыё Свабода”**

# ІРЫНА ГЛУСКАЯ І АЛЯКСАНДР ЯРАШУК УЗНАГАРОДЖАНЫЯ МЕДАЛЁМ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні медалём Францыска Скарыны прэзідэнта Самарскай абласной арганізацыі беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі “Руска-Беларускае Брацтва 2000” Ірыны Глускай і кіраўніка гарадской акругі “Горад Калінінград”, члена савета грамадскай арганізацыі Рэгіянальная нацыянальна-культурная аўтаномія “Калінінградскае зямляцтва беларусаў” Аляксандра Ярашука. Аб гэтым БелТА паведамілі ў прэс-службе беларускага лідара.

Яны ўганараваныя за значны асабісты ўклад у папулярызацыю беларускага мастацтва, умацаванне гандлёва-эканамічных, гуманітарных, культурных і навуковых сувязей паміж Беларуссю і Расіяй.

**Аліна Грышкевіч, БелТА**

# ЯК БУДЗЕ ВЫГЛЯДАЦЬ СКУЛЬПТУРНАЯ КАМПАЗІЦЫЯ “БЕЛАРУСАМ СВЕТУ” ЛЯ ТРАЕЦКАГА

Скульптурная кампазіцыя павінна з’явіцца да 950-годдзя Мінска паблізу Траецкага прадмесця, паведамілі ў КУП “Мінская спадчына”.



Памятны знак будзе ўяўляць з сябе кола – адзін з самых старажытных знакаў, які ўвасабляе сонца, вечнасць. Кола выкарыстоўвалася беларусамі ў розных абрадах, святах, у той жа час гэта самы неабходны інвентар у сялянскай гаспадарцы.

Бронзавую скульптуру дыяметрам прыкладна 3 метры ўсталююць на гранітным валуне з надпісам “Беларусам свету”. Вобраз дапоўніць стужка з нацыянальным арнаментам.

“Памятны знак прысвячаецца ўсім беларусам, якія жывуць у розных кутках Зямлі. Аб’ядноўвае ўсіх гэтых людзей любоў да Радзімы, да яе мовы, звычаяў, культуры. У розных краінах яны ствараюць дыяспары, дзе гучыць родная мова, радуюць душу і сэрца песні на “матчынай мове”. На розных кантынентах, стаўшы часткай гісторыі розных краін, яны застаюцца беларусамі. Такія імёны, як Ігнат Дамейка, Марк Шагал, Барыс Кіт, вядомыя ўсяму свету”, – распавядае адзін з аўтараў кампазіцыі доктар архітэктуры, прафесар Армен Сардараў.

**“Наша Ніва”**

# ПОЛЬШЧА АДНАЎЛЯЕ СТЫПЕНДЫЯЛЬНУЮ ПРАГРАМУ ІМЯ КАЛІНОЎСКАГА

Пра гэта ў сваім Facebook паведаміў дэпутат Роберт Тышкевіч.

Польскі дэпутат звярнуўся з адпаведнай прапановаю ў Міністэрства адукацыі. Міністэрства пагадзілася аднавіць праграму.

Праграма імя Кастуся Каліноўскага паўстала ў 2006-м. Аляксандр Мілінкевіч звярнуўся да польскага ўраду з просьбай падтрымаць рэпрэсаваных студэнтаў. Польскі ўрад за адныя суткі распрацаваў і падпісаў праект дапамогі. У першы год польскія ўніверсітэты прынялі 244 каліноўцаў. Пазней на вучобу штогод ехалі каля 50 чалавек. Летась – толькі 25. Сёлета пасля пратэстаў было некалькі выпадкаў, калі студэнтаў адлічылі з ВНУ за ўдзел у акцыях пратэсту.

**Паводле “Польскага Радыё”**

# АРТУРУ КЛІНАВУ ЎРУЧЫЛІ ЎЗНАГАРОДУ ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ

У Варшаўскім універсітэце ўручылі ўзнагароду імя Льва Сапегі. Сёлета яе лаўрэатам стаў беларускі мастак і літаратар, галоўны рэдактар часопіса “pARTizan” Артур Клінаў.

Цягам наступнага года мастак прачытае свае лекцыі ў пяці ўніверсітэтах Польшчы, гаворыць адзін з ініцыятараў узнагароды, дырэктар Студыюм Усходняй Еўропы Ян Маліцкі: “Артур Клінаў цэлы акадэмічны год правядзе ў Польшчы, у пяці ўніверсітэтах – па два месяцы ў кожным. Пачынаць будзе з Ягелонскага ўніверсітэта, затым будуць універсітэты ў Беластоку, Вроцлаве і Познані, і завяршыць год – у Варшаўскім універсітэце”.

Сам Артур Клінаў прызнаўся, што зусім не спадзяваўся на гэтую ўзнагароду, бо звычайна лаўрэатамі прэміі імя Льва Сапегі станавіліся навукоўцы, а не мастакі.

Наступны год Артур Клінаў плануе выкарыстаць для прамоцыі беларускай культуры сярод польскіх студэнтаў: “Безумоўна, гэта вялікі гонар, гэта каласальная магчымасць тут, у Польшчы, распавесці пра Беларусь. І не ў ракурсе палітычным, а ў ракурсе менавіта культуры новай Беларусі, якая нараджаецца. Каб паказаць тое файнае, цікавае, актуальнае, фантастычнае, што робіцца сёння ў беларускай культуры – у літаратуры, у выяўленчым мастацтве, у незалежным тэатры, у альтэрнатыўным кіно”.




Прэмія імя Льва Сапегі была заснаваная 12 гадоў таму. Штогод узнагарода прысуджваецца выбітным беларусам, якія звязваюць сваю дзейнасць са спадчынай Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Прэмія знаходзіцца пад ганаровым патранатам прэзідэнта Польшчы.

**Адам Завальня, “Беларускае Радыё Рацыя”**

навіны

# “ПЛАНАВАЛІ ВЫДАЦЬ 50 КНІГ, ВЫДАЛІ 150”. ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ АДЗНАЧАЕ САВЁ ПЯЦІГОДДЗЕ

Інстытут беларускай гісторыі і культуры быў зарэгістраваны ў Латвіі, таму што ў Беларусі “немагчымая рэгістрацыя грамадскіх аб’яднанняў нацыянальна-патрыятычнага характару”.

Міністэрства юстыцыі, кажучь заснавальнікі, пастаянна знаходзіць якую-небудзь фармальную падставу, каб адмовіць у рэгістрацыі.

Цяпер інстытут выдае кнігі ў серыі “Невядомая гісторыя” (больш за 50 кніг), гістарычны альманах “Дзяды” (17 выпускаў); серыю “100 выбітных дзеячаў беларускай культуры XIX–XX стагоддзяў” (больш за 70 кніг).

“Усё магло быць больш актыўна, але інстытут працуе ў межах сваёй стратэгіі і фінансавых магчымасцяў”, – падсумаваў дырэктар інстытута, магістр эканомікі Віктар Яўмененка.

Навуковы сакратар інстытута прафесар Анатоль Тарас заўважыў, што хоць афіцыйную рэгістрацыю атрымалі 5 гадоў таму, першая кніга выйшла яшчэ ў 2006 годзе. За гэты час выдалі больш за 150 кніг, з іх 88 – на беларускай мове: “У сеціве ёсць тры інфармацыйныя сайты. Інстытут таксама праводзіць навукова-практычныя канферэнцыі па праблемах гісторыі, культуры, ментальнасці – праведзена ўжо 10 канферэнцый.

Інстытут таксама заснаваў штогадовую прэмію імя Вацлава Ластоўскага за найлепшую гістарычную працу года. Увосень 2016 года ў Курапатах быў усталяваны 5-метровы крыж памяці Ластоўскага.

“Нас мала, але ўсё тое, што плануем, – выконваем. Планавалі 50 кніг, выдалі 150”, – кажа Анатоль Тарас.




Гісторык Ігар Мельнікаў, аўтар некалькіх кніг з серыі “100 выбітных дзеячаў”, адзначыў каштоўнасць і цікавасць навуковых канферэнцый, якія ладзіліся Інстытутам беларускай гісторыі і літаратуры.

А эканаміст Мечыслаў Бурак падсумаваў: “Дзейнасць Інстытута эфектыўная, вынікі плённыя, перспектывы ёсць”.

**“Радыё Свабода”**

# БАЗА ЗАКЛІКАЛА ЎРАД ЗША АДНАВІЦЬ САНКЦЫІ

Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА) накіравала на адрас амерыканскага ўрада заяву, у якой заклікае разгледзець пытанне аб аднаўленні санкцый.

У сваім звароце арганізацыя беларускай дыяспары, заснаваная ў 1949 годзе, праінфармавала ўрад ЗША пра апошнія падзеі ў Беларусі і дала рэкамендацыі, адзначыўшы, што пазітыўныя захады ЗША і ЕС у дачыненні да Мінска не прывялі да дзеянняў у адказ з боку Аляксандра Лукашэнкі.

“Рэжым вырашыў стаць на ногі і не ініцыяваць змен па пытаннях, якія выклікаюць занепакоенасць, а чакаць, што Захад зменіць свой падыход”, – гаворыцца ў заяве. Таму, прымаючы рашэнне аб далейшым санкцыйным курсе, БАЗА заклікае Злучаныя Штаты ўлічваць фактары, якія “з’яўляюцца цэнтральнымі для дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі, а таксама для двухбаковых адносін паміж Мінскам і Вашынгтонам”. Гаворка ідзе, у прыватнасці, аб наяўнасці ў беларускага боку палітычнай волі да сапраўдных дэмакратычных пераўтварэнняў напярэдадні выбараў і пасля іх заканчэння.

“Мы настойліва заклікаем ЗША прытрымлівацца паслядоўнага падыходу да захавання правоў чалавека, узгодненага ў меморандуме Клінтан–Мартынава ў 2010 годзе, і канкрэтных захадаў, прадугледжаных у Акце аб дэмакратыі і правах чалавека ў Беларусі”, – гаворыцца ў звароце.

Нагадаем, санкцыі былі ўведзеныя прэзідэнтам Джорджам Бушам-малодшым 16 чэрвеня 2006 года ў сувязі з парушэннем правоў чалавека ў Беларусі і з тых часоў прадаўжаліся да канца 2015 года. Пасля гэтага быў узяты курс на прыпыненне санкцый кожныя паўгода. Чарговы перыяд змякчэння санкцый завяршаецца 30 красавіка 2017 года.

У санкцыйны спіс уваходзяць ААТ “Лакафарба”, ААТ “Нафтан”, “Беларускі нафтавы гандлёвы дом”, Belneftekhim USA Inc., канцэрн “Белнафтахім”, ААТ “Гродна Азот”, ААТ “Белшына”, ААТ “Полацк-Шкловалакно” і ААТ “Гродна Хімвалакно”.

**“Беларускае Радыё Рацыя”**



# МІРУ ЛУКШУ ЎЗНАГАРОДЗІЛІ Ў СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ

Паэтка, журналістка тыднёвіка беларускай меншасці ў Польшчы “Ніва” Міра Лукша ўзнагароджаная падчас XVII Сусветных дзён паэзіі ЮНЭСКА ў Польшчы.

Вылучэнне на прэмію яна атрымала за мастацкае адлюстраванне шматкультурнай паэтычнай спадчыны малой Бацькаўшчыны і за папулярызацыю славянскай паэзіі. У рамках узнагароды выйшаў яе новы зборнік, надрукаваны выдавецтвам “ІБіС”, “Міра Лукша: Радаслоў”.

“Гэта паказ таго, як нараджаюцца словы, паказаны таксама радавод гэтага слова, мой радавод, радавод беларушчыны нават. Бо ў гэтым зборнічку ёсць вершы пра рэчы і асобаў, якія важныя не толькі для мяне. Таксама гэта і след, які застаецца пасля мяне, і падсумаванне таго, што я зрабіла. Проста ў гэтым выбары месцаў і людзей ёсць малая Айчына”, – кажа Міра Лукша.

З 2001 года гэта адна з найбольш прэстыжных літаратурных прэмій у свеце. Адным з першых лаўрэатаў узнагароды былі ксёндз Ян Твардоўскі і Эрнэст Брыль.

**Уля Шубзда, “Беларускае Радыё Рацыя”**

# НА “ЧАРНОБЫЛЬСКІМ МІТЫНГУ” Ў НЬЮ-ЁРКУ

26 красавіка перад будынкам штаб-кватэры Аб’яднаных Нацыяў на Манхэтане ў Нью-Ёрку прайшоў мітынг, прысвечаны 31-й гадавіне Чарнобыльскай катастрофы.




Мітынг быў зладжаны Беларуска-Амерыканскім Згуртаваннем “Пагоня” на знак салідарнасці і падтрымкі беларусаў, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі і дасюль вымушаныя сутыкацца з яе наступствамі. Гэта таксама выказ пратэсту супраць той абыякавасці і раўнадушнасці, якую праяўляюць улады ў Беларусі, замоўчваючы сапраўдную сітуацыю ў забруджаных раёнах і будуючы Астравецкую атамную станцыю – патэнцыйную крыніцу новай радыяцыйнай небяспекі ды ўзмацнення энергазалежнасці ад Расіі.

**БАЗА (Нью-Ёрк)**

навіны

# НОВЫЯ СПРАВЫ, НОВЫЯ НАДЗЕІ

Старшынёй суполкі "Беларускія сябры" ў Грузіі абрана былая мінчанка Вольга Градзінар.

Актывістка суполкі "Беларускія сябры" ў Тбілісі Лідзія Лярская-Шацірышвілі паведаміла, што праз праблемы са здароўем былы старшыня Аляксандр Жыляеў на працягу доўгага часу не бярэ аніякага ўдзелу ў справах суполкі, і таму было вырашана змяніць кіраўніцтва. Старшынёй арганізацыі аднагалосна абралі Вольгу Градзінар, сама спадарыня Лідзія Лярская-Шацірышвілі засталася намесніцай. Былому ж кіраўніку засталося права знаходзіцца ў актыве суполкі ды ўдзельнічаць у яе працы. Акрамя таго, былі ўнесены змены ў статут: старшыня аб'яднання будзе выбірацца цяпер агульным галасаваннем кожныя два гады.


Лідзія Лярская-Шацірышвілі з дачкой і ўнукам.

Вольга Градзінар, якая пераехала ў Грузію толькі год таму, паспела станоўча праявіць сябе ў асяродку тамтэйшых беларусаў. Яна ўдзельнічала летась у правядзенні выставы "Грузія, дружная з сонцам краіна..." ў грузінскім горадзе Цхалтуба, прысвечанай Янку Купалу. Дзякуючы ёй старана і актыўна набірае лайкі ды прагляды старонка суполкі ў Фэйсбуку, і знаходзяцца ўсё новыя беларусы, якія цяпер жывуць у Грузіі і гатовыя далучыцца да працы ў суполцы.

**Карына Міхайлава, "Голас Радзімы"**

# КУРСЫ ВЫВУЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ З'ЯВІЛІСЯ Ў МАДРЫДЗЕ

У Мадрыдзе на базе вучэбнага моўнага цэнтра "Лінгваландыя" арганізаваны курсы вывучэння сучаснай беларускай мовы для прадстаўнікоў беларускай дыяспары і іспанскіх грамадзян.

Ідэя арганізацыі курсаў належыць грамадзянцы Беларусі, кіраўніку цэнтра "Лінгваландыя", члену Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа Святлане Яськовай.

Першы занятак адбыўся 1 красавіка. На працягу дзвюх з палавінай гадзін настаўнік беларускай мовы Сяргей Манюк дапамагаў іспанскім вучням пазнаёміцца з беларускай мовай, а суайчыннікам – успомніць вывучанае раней.

"Пасольствам Беларусі ў Іспаніі будзе перададзена ў дар моўнаму цэнтру "Лінгваландыя" бібліятэчка беларускіх кніг для арганізацыі навучальнага працэсу", – расказалі ў дыппрадстаўніцтве.

**БелТА**

# ДЗІЦЯЧЫ ФЕСТЫВАЛЬ "БЕЛАРУСКАЯ ВЯСНА Ў ТАРОНТА"

Дзіцячы фестываль "Беларуская вясна 2017" адбыўся ў красавіку ў Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры ў Таронта пры падтрымцы Згуртавання беларусаў Канады і фольк-гурта "Яваровы людзі".

Праграма фестывалю складалася з дзіцячага канцэрту і абрада гукання вясны.

У канцэрце бралі ўдзел беларускі дзіцячы гурт (мастацкі кіраўнік Віялета Кавалёва), школа балгарскіх танцаў і традыцый "Іrанка" (кіраўнікі Каця і Недзялка Цілевы), вакальна-джазавая студыя "Актава Плюс" (мастацкі кіраўнік Маргарыта Рамко), а сольныя выступоўцы Сафія Кот і Рада Зінчук (спевы), Параскева Асадчая (флейта) і блізняткі Паўліна і Міхаліна Канаплянік (танец).

У перапынку ахвочыя рабілі папяровых птушак і развешвалі іх на квітнеючае дрэва, каб паскорыць надыход вясны. Дзеткі атрымалі і печаных з цеста птушак ад Алены Лявончанка.

Разам з гуртом "Яваровы людзі" дзеткі вадзілі карагоды, гулялі ў беларускія народныя гульні, а таксама вучыліся танчыць балгарскія танцы.

Беларуская кухня была прадстаўлена дранікамі, дэсертам "Мазурка крохкая" і журавінавым морсам.

Фестываль сабраў шмат удзельнікаў і гасцей. Арганізатары вельмі спадзяюцца, што ён стане штогадовай традыцыяй і будзе збіраць сяброў і запрашаць гасцей і надалей.

**Ірына Тоўсцік**




# ГУКАННЕ ВЯСНЫ НА БЕРАЗЕ ДНЯСТРА

2 красавіка прадстаўнікі чатырох грамадскіх аб'яднанняў беларусаў Малдовы (Таварыства беларускай культуры горада Бендэры , Беларускі культурны рух Малдовы, Таварыства дружбы і супрацоўніцтва "Малдова–Беларусь" і Асацыяцыя беларусаў муніцыпія Кішынёў "Беларусь") правялі на беразе Днястра "Гуканне Вясны", якое сімвалічна паяднала беларусаў з усіх берагоў Днястра.



Старшыня Таварыства беларускай культуры горада Бендэры Аляксандр Лапацьеў на выдатна справіўся з роляй гаспадара мерапрыемства, і свята атрымалася на славу. Беларусы Малдовы з вялікай цікавасцю наведалі Бендэрскую крэпасць і нацешыліся малдаўскімі краявідамі і прыгажосцю Днястра. У асабліва моцным захапленні былі самыя юныя беларусы. Праграму працягнула аглядная экскурсія па горадзе Бендэры, а затым удзельнікі завіталі на базу адпачынку "Юнацтва".

Беларуска-малдаўскі этнічны тэатр "Куфар", які дзейнічае пры Беларускім культурным руху Малдовы, злучыў прысутных у абрадзе з глыбокім сакральным сэнсам – нашы продкі верылі, што жывыя сілы прыроды прачнуцца і прынясуць свае даброты людзям толькі тады, калі іх пра гэта добра папрасіць, дапамагчы ім, пагукаць іх. Затым усе разам упрыгожылі дрэвы і суседнія пабудовы самаробнымі птушкамі-жаўрукамі, вадзілі карагод, спявалі песні-вяснянкі, танчылі, частаваліся стравамі беларускай і малдаўскай кухні, шмат жартавалі і смяяліся! Віншавалі адзін аднаго з прыходам вясны, жадалі родным і блізкім людзям здароўя, дабрабыту.

**Ганна Мазур, Старшыня Праўлення БКРМ**

# ВЯСНУ ГУКАЦЬ – І ДЗЕТАК ДАЛУЧАЦЬ

У Даўгаўпілскім Цэнтры беларускай культуры прайшлі адукацыйна-гульнявыя заняткі ды майстар-клас для школьнікаў "Гуканне вясны".

Беларускі дом наведалі вучні 15-й асноўнай школы Даўгаўпілса. Арганізатар культурных мерапрыемстваў Ірына Апейнанэ правяла экскурсію па Цэнтры беларускай культуры, пазнаёміла дзяцей з беларускімі нацыянальнымі касцюмамі, выставай фатаграфій, народнай бібліятэкай, экспазіцыяй "Беларуская хатка". Дзятву цікавіла ўсё, асабліва прылады працы і побыту беларускіх сялян пачатку XX стагоддзя: да іх яны змаглі дакрануцца рукамі, даведацца аб іх прызначэнні.

Потым школьнікі слухалі аповед пра традыцыі святкавання Гукання Вясны, адгадвалі загадкі і за правільныя адказы атрымлівалі салодкія пачастункі. Пасля прагляду фільма "Гуканне вясны ў Беларусі" ўсе клеілі птушак-выцінанак на каляровыя паштоўкі і размалёўвалі іх яркімі фарбамі.

Заняткі школьнікам спадабаліся, дзеці панеслі з сабою і новыя веды, і станоўчыя эмоцыі.

**Марыя Памецька,**
**Цэнтр беларускай культуры, г. Даўгаўпілс**

гутарка

# ПЕСНЯ СЯБРАВАЦЬ ДАПАМАГАЕ

Беларуская Амбасада ў Польшчы актыўна падтрымлівае творчыя праекты тамтэйшых беларускіх грамадскіх суполак.



Амбасадар Аляксандр Авяр'янаў выступае на адкрыцці выставы ў Гайнаўцы.

На Усяпольскім фестывалі "Беларуская песня-2017" амбасадар Беларусі ў Польшчы Аляксандр Авяр'янаў выйшаў на сцэну Беластоцкай оперы і філармоніі не толькі як афіцыйная асоба, але і як спявак і аўтар песень. Ён быў прыемна ўражаны, што яго песні ведаюць і спяваюць у Беларусі.

**– Шмат беларусаў жыве на Падляшшы… Ці спрыяе Амбасада беларускім суполкам?**

– Гэта – карэннае насельніцтва, гэтыя людзі самі сябе называюць "тутэйшымі", не адносяць сябе ўжо да Беларусі, хоць і палякамі не лічаць. 61 год дзейнічае Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якое ўзначальвае Ян Сычэўскі. Амбасада і Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве надаюць значную ўвагу ўзаемадзеянню з беларусамі Падляшша: падтрымліваем мерапрыемствы па захаванні мовы, культуры. Створана сістэма вывучэння беларускай мовы.

**– У Варшаве бацькі выхаванцаў аднаго з садкоў хочуць стварыць групу з беларускай мовай навучання…**

– Паводле польскага заканадаўства для стварэння такой групы дастаткова некалькіх галасоў.

**– Беларусь увяла спачатку бязвізавы рэжым наведвання Белавежскай пушчы, затым – Аўгустоўскага канала і горада Гродна, а нядаўна і 5-дзённы бязвізавы рэжым для замежнікаў, якія прыбываюць у краіну праз Нацыянальны аэрапорт Мінск. Як гэта спрыяе развіццю беларуска-польскіх стасункаў?**

– Грамадзяне Польшчы нанова адкрываюць для сябе нашу краіну, яны ў лідарах 5-дзённага наведвання Беларусі без віз. І едуць не толькі як турысты, але ўсё часцей для правядзення дзелавых перамоў.

**– З часу ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Польшчай стасункі былі і лагодна-сяброўскімі, і дастаткова напружанымі. Як ацэньваеце сённяшні этап нашых адносінаў?**

– Сёння часта ўжываецца тэрмін "нармалізацыя". На мой погляд, гэтае слова дастаткова поўна вызначае цяперашні этап. За кароткі час удалося зрабіць больш, чым за папярэдняе дзесяцігоддзе. Гэта надае нам аптымізму. Мы вярнуліся на шлях дыялогу, яго трэба пастаянна падтрымліваць, і мы гатовы пашыраць узаемадзеянне ў розных галінах. Хочацца, каб людзі як у Беларусі, так і ў Польшчы адчулі рэальны эфект ад нармалізацыі палітычных адносін.

**Паводле Кацярыны Мядзведскай, "Голас Радзімы"**

# ГРОДЗЕНСКІ МЕДУНІВЕРСІТЭТ ПЛАНУЕ АДКРЫЦЬ ФІЛІЯЛ У ШРЫ-ЛАНЦЫ

Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт плануе адкрыць філіял у Шры-Ланцы, паведаміў рэктар ВНУ Віктар Сняжыцкі.



Дэлегацыя ВНУ знаходзіцца на перамовах у Шры-Ланцы. "Мы плануем адкрыць філіял падрыхтоўчага аддзялення ўніверсітэта. Ідэя будзе ўвасоблена ў жыццё калі не ў бягучым, то ў наступным годзе. Форма навучання разглядаецца з удзелам выкладчыкаў з ліку мясцовых жыхароў. Гродзенскіх спецыялістаў туды збіраемся адпраўляць у кароткатэрміновыя камандзіроўкі для кантролю, атэстацыі і метадычнага суправаджэння", – сказаў рэктар.

У выпадку ажыццяўлення планаў Шры-Ланка стане першай замежнай краінай, дзе з'явіцца філіял ВНУ. Калі стварэнне структуры за мяжой дасць эфект, то праца будзе працягнутая, адзначыў Віктар Сняжыцкі.

У Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце больш за 15 гадоў ёсць форма навучання на англійскай мове. Сёння дзве трэціны студэнтаў-замежнікаў у ВНУ атрымліваюць вышэйшую адукацыю на англійскай на працягу ўсіх шасці гадоў.

"Выкладчыкі да гэтага гатовыя, мы ўвесь час павялічваем колькасць маладых кадраў, якія валодаюць замежнымі мовамі", – дадаў рэктар. Якасць падрыхтоўкі замежных студэнтаў ацэньваецца высока, конкурс складае больш за два чалавекі на месца.

На базе ГрДМУ 18 красавіка прайшоў круглы стол Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці. На ім абмяркоўваліся шляхі ўдасканалення вышэйшай медыцынскай адукацыі і навукі ў Беларусі.

**hrodna.life паводле БелТА**

## Беларускі каляндар памятных дат на травень 2017 года

1 траўня – 95 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Алесь Салавей (сапр. Альфрэд Радзюк, на эміграцыі Альберт Кадняк), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Аўстраліі.

2 траўня – 120 гадоў таму, у 1897-м, нарадзіўся Андрэй Капуцкі, пісьменнік, публіцыст, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.

2 траўня – 20 гадоў таму, у 1997-м, памёр Валерый Шаблюк, гісторык.

3 траўня – 140 гадоў таму, у 1877-м, нарадзіўся Антон Грыневіч, збіральнік музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар.

3 траўня – 125 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Аляксандр Вальковіч, дзеяч нацыянальнага руху.

4 траўня – 85 гадоў таму, у 1932-м, нарадзіўся Мікола Прашковіч, літаратуразнавец, перакладчык.

9 траўня – 125 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Міхаіл Мялешка, гісторык, этнограф, пісьменнік, публіцыст.

12 траўня – 175 гадоў таму, у 1842-м, памёр Валенці Ваньковіч, мастак.

13 траўня – 95 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Леанід Кароль, грамадскі дзеяч у Вільні.

15 траўня – 135 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Уладзіслаў Галубок, пісьменнік, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, мастак.

15 траўня – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Анатоль Іверс (сапр. Іван Міско), паэт.

16 траўня – 360 гадоў таму, у 1657-м, памёр Андрэй Баболя, рымска-каталіцкі дзеяч, місіянер, пазней прызнаны святым і кананізаваны.

16 траўня – 255 гадоў таму, у 1762-м, нарадзіўся Юзаф Копаць, адзін з камандзраў паўстання 1794 г., мемуарыст.

20 траўня – 115 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Язэп Пушча (сапр. Язэп Плашчынскі), паэт.

21 траўня – 220 гадоў таму, у 1797-м, нарадзіўся Дамінік Стафановіч, музыкант, педагог, дырыжор.

23 траўня – 50 гадоў таму, у 1967-м, памёр Мікола Дзямідаў, вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч.

25 траўня – 100 гадоў таму, у 1917-м, памёр Максім Багдановіч, паэт, перакладчык, крытык.

25 траўня – 80 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Сяргей Сідар, географ, педагог.

25 траўня – 30 гадоў таму, у 1987-м, памёр Яўген Калубовіч (на эміграцыі Каханоўскі), гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

26 траўня – 40 гадоў таму, у 1977-м, памёр Янка Пачопка, паэт, фалькларыст.

31 траўня – 65 гадоў таму, у 1952-м, нарадзілася Тамара Чабан, літаратуразнавец.

31 траўня – 25 гадоў таму, у 1992-м, памёр Васіль Стома, пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**Беларусы ў свеце**
No 4 (179), красавік 2017

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27